

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Аднаўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№ 30 (111). 22 — 28 ліпеня 1999 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 25.000 руб.

# БЕЛАРУСАЧКА



Фота Мікалая СУПРУНА

# СУПРУГА МИХАИЛА ЧИГИРЯ ОПАСАЕТСЯ ЗА ЖИЗНЬ МУЖА

**Недавно супруга Михаила Чигиря сообщила, что в штаб-квартиру комитета «За свободу Михаила Чигиря и Беларуси» дважды позвонил человек, который оставил на автоответчике информацию о том, что на содержащегося под стражей экс-премьера планируется покушение. «Поднимите всех и вся, — говорил неизвестный, — Чигиря или убьют, или отравят, или задушат».**

Член комитета Валентина Святская встретилась с этим человеком, который оказался сотрудником одной из спецслужб. В ночь с 15 на 16 июля информация о возможном покушении на Чигиря была передана руководству следственной группы, администрации следственного изолятора /СИЗО/ и представителям консультативно-мониторинговой группы ОБСЕ в Беларуси. По некоторым сведениям, члены ОБСЕ посетили СИЗО.

Юлия Чигирь и Валентина Святская также сообщили журналистам, что есть сведения о том, что не исключены провокации и даже арест сыновей Михаила Чигиря, которым «доброжелатели» предлагают уехать из Беларуси. Комитет «За свободу Михаила Чигиря и Беларуси» предупредил власти о том, что, «в случае возникновения угрозы жизни и здоровью М.Чигиря, вся ответственность ляжет не только на плечи непосредственно исполнителей, но и на основных «заказчиков», подчиняющихся сегодня одному человеку — президенту Александру Лукашенко. Сегодня же Валентина Святская встретилась с одним из следователей группы по делу Чигиря Евгением Нефиным.

Юлия Чигирь встретилась со своим мужем в следственном изоляторе. Она обратила внимание на его несколько заторможенную реакцию. По ее сведениям, в четырехместную камеру, где содержится М.Чигирь, накануне помещен пятый арестованный. Юлия Станиславовна предупредила мужа об имеющейся информации и порекомендовала быть предельно осторожным и питаться лишь продуктами, передаваемыми ею с воли.

**БелаПАН**

## ЗДАРЭННІ

### Начальнік аховы змагаецца з помнікамі

**Начальнік Мастоўскага аддзялення "Ахова" маёр Балаханаў на тэхнічна іспраўным аўтамабілі ды роўнай шашы не справіўся з кіраваннем і сутыкнуўся з памятным знакам, што ўстаноўлены абапал дарогі ў гонар савецкіх воінаў, якія загінулі напачатку мінулай вайны ў баі на рэчцы Ельня.**

Кіроўца і тры пасажыры былі змешчаны ў рэанімацыю.

**Яззп ПАЛУБЯТКА**

### Знайшлі выйсце

**Мастоўскаму РАУС, як і іншым арганізацыям раёна, быў даведзены план нарыхтоўкі сена.**

Ахоўнікі правапарадку павінны былі накасіць не менш як дзевятнаццаць тон зялёнай масы. Несумяшчальнасць службы з сельскагаспадарчай працай — вядомая. Тым не менш, без асаблівых намаганняў міліцыя знайшла радыкальны выхад. Замест міліцыянтаў сена нарыхтавалі сутачнікі і з заданнем справіліся паспяхова.

**Антон МАКЕЙ**

### Взрывы в Мостах

**Пятиклассник одной из Мостовских школ закинул в пластиковую бутылку с водой кусок карбида.**

В результате произошёл взрыв, от которого мальчик получил ожоги лица и обоих глаз и помещён в больницу.

В тот же день на городской свалке Мостов два школьника бросили в костёр бутылку с остатками краски. Бутылка взорвалась. Осколки стекла повредили мальчишкам лица и ноги. Ребята госпитализированы.

### Смерть после пьянок

**В Дятловском районе в своём доме был обнаружен труп мужчины.**

Следственная группа РОВД установила, что тяжкие телесные повреждения, от которых наступила смерть, ему нанёс собутыльник.

А в Мостовскую больницу недавно был доставлен житель этого города, который скончался от черепно-мозговой травмы и кровоизлияния в мозг. Установлено, что после совместного распития спиртного его ударила по голове женщина.

**Михась ОКУЛКО**

## ПОМОГИТЕ ЮНОМУ ХУДОЖНИКУ, КОТОРЫЙ БУДЕТ ПРЕДСТАВЛЯТЬ СЛОНИМ НА МЕЖДУНАРОДНОМ ПЛЕНЭРЕ

**Слонимский центр творчества детей и юношества ищет спонсоров для оказания материальной помощи юному слонимскому художнику Владимиру Камчицу, который примет участие в пятом международном пленэре, посвящённому известному белорусскому художнику Казимиру Малевичу.**

В акции для творчества одарённых детей примут участие представители Болгарии, России, Украины, Литвы, Беларуси и др.

По итогам пленэра организаторы издадут каталог, где будет указан спонсор пленэра. Работы юных художников затем передадут в дар организациям, принявшим участие в обеспечении пленэра.

Деньги можно перечислить до 24 июля на р/с 3732213140010 АСБ Беларусбанк. ГОРОО код 825 (с пометкой — для Владимира Камчица).

Справки по тел. 3-10-59, художник Евгений Иванов.

## НАВІНЫ

### Нашы медалісты

**Сёлета сярэднюю школу закончылі 478 выпускнікоў г.Слоніма. У вясковых школах Слонімскага раёна сярэднюю адукацыю атрымалі 128 чалавек.**

Сярод гарадскіх выпускнікоў — 30 "залатых" і 43 "сярэбраныя" медалісты.

У вясковых школах залатыя медалі атрымалі шэсць чалавек і сярэбраныя — 11-ць.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### Урожай ожидается меньшим

**"Урожай зерновых и зернобобовых на Гродненщине в нынешнем году ожидается меньший, чем в прошлом году,"- заявил первый заместитель Гродненского облисполкома Владимир Савченко.**

По его словам, выборочная уборка в четырнадцати районах области дает пока 21 центнер с гектара, тогда как в прошлом году аналогичный контрольный показатель достигал 33 ц/га.

Готовность зерноуборочной техники составляет 60—72 процента. Большинство комбайнов отработали по 15—16 лет. В прошлом году состарившаяся техника привела к недобору семи центнеров с каждого гектара.

**БелаПАН**

### "За маладую, здаровую Беларусь!"

**Пад такім дэвізам у мінулую нядзелю ў Слоніме прайшоў пікет супраць СНІДу. У ім удзельнічала 15 чалавек.**



Фота Мікалая СУПРУНА

*Удзельнікі пікета раздаюць прэзервативы*

Арганізатарамі пікету выступілі мясцовыя маладзёжныя арганізацыі "Малады фронт", "Слонімскі маладзёжны клуб аматараў беларускага року", слонімскае маладзёжнае аб'яднанне "Ветразь", спартыўна-патрыятычная арганізацыя "Край".

Статыстыка сведчыць, што за першае паўгоддзе 1999 года на Слонімшчыне афіцыйна зарэгістравана 34 чалавекі хворых на сіфіліс. Асноўны кантынгент хворых складае моладзь і людзі сярэдняга ўзросту ад 15 да 40 гадоў. Таму, па словах Алеся Масюка, кіраўніка "Маладога фронту", "мэта пікета — прыцягнуць і засяродзіць увагу моладзі да праблемы венерычных захворванняў, СНІДу." Пад час акцыі было бясплатна раздадзена 150 прэзерватываў.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**

# БУРАКОВЫ КАНФЛІКТ

**Днямі ў рэдакцыю "ГС" патэлефанавала работніца Слонімскай КПФ і паведаміла, што паміж прадзільшчыцамі, накіраванымі на праполку буракоў у калгас "Дружба", і начальнікам вытворчага ўчастка гаспадаркі Ірынай Уласік узнік канфлікт. Па словах жанчыны, прычынай непаразумення з'явілася тое, што ім наўмысна заніжаецца колькасць выкананых там работ.**



Фота Мікалая СУПРУНА

*Работніцы камвольна-прадзільнай фабрыкі на прапалцы буракоў*

Карэспандэнты "ГС" выехалі ў калгас і сустрэліся з групай работніц фабрыкі, якія церабілі пустазелле на плантацыі буракоў.

Першай пачала размову майстар прадзільнай вытворчасці, якая назвалася Аленай. Яна паведаміла, што згодна з дамовай паміж адміністрацыяй КПФ і праўленнем калгаса "Дружба", у гаспадарку на працягу тыдня прыязджаюць 30-40 жанчын, якія павінны нарыхтаваць 170 тон зялёнай масы для калгаснай жывёлы. Вядома, што касіць траву — гэта не жаночая справа, і таму праўленне калгаса прапанавала ім замест гэтага палоць буракі. Пры гэтым было вызначана, што кожны праполаты рад, даўжынёй 200 метраў, будзе залічаны, як адна тона нарыхтаванай зялёнай масы. У сваю чаргу праўленне калгаса абавязалася заплаціць жанчынам за работу пры ўмове, што яны будуць працаваць на полі з 9 гадзін раніцы да 14.30 гадзін дня. Штодзённа начальнік вытворчага ўчастка Ірына Уласік напрыканцы падлічвала вынікі працы прадзільшчыц і падавала звесткі ў кантору калгаса. Здаецца, усе былі задаволены. Але ў мінулы чацвер па невядомых прычынах гараджане прыехалі на поле без майстра. Па гэтай ці іншай прычыне, жанчыны, адпрацаваўшы дзве гадзіны і прапалоўшы за гэты час 54 радкі сталовых буракоў даўжынёй сто метраў кожны, сабраліся ехаць дамоў. Начальнік участка Ірына Уласік паведаміла шэфам, што за выкананую работу залічыць толькі 27 тон скошанай "зялёнкі", бо даўжыня радоў удвая карацейшая. Аднак жанчыны не згадзіліся з такім рашэннем. Яны запатрабавалі ад Уласік, каб яна запісала, нібыта імі нарыхтавана 54 тоны зялёнай масы. Як сказала карэспандэнтам "ГС" Ірына Уласік, яна настолькі спалохалася актыўнага наступу прадзільшчыц, што ўрэшце пагадзілася ім залічыць не болей 37 тон зялёнай масы. Аднак і гэта лічба не задаволіла прадзільшчыц. Яны працягвалі настойваць на сваім, але пераканаць Уласік прыпісаць ім лішнія тоны не здолелі, таму вельмі абурыліся. Старшыня калгаса "Дружба" Вацлаў Ждановіч сказаў, што ў гэтым непаразуменні ў першую чаргу вінавата сама Ірына Уласік, якая ў штодзённых звестках свядома завышала колькасць выкананых камвольшчыцамі работ. На яго думку, гэта і стала падставай для даната непаразумення. У ходзе абмеркавання канфлікту Вацлаў Францавіч паведаміў, што сёлета калгас "Дружба" паспяхова вядзе нарыхтоўку кармоў для жывёлы. Замест запланаваных 2000 тон сенажу, у гаспадарцы яго закладзена ўжо 2757 тон. Нядрэнна ідзе работа і па нарыхтоўцы сена. "У нас не было асаблівай неабходнасці запрашаць для нарыхтоўкі кармоў гараджан. Але работнікі КПФ з'яўляюцца нашымі шэфамі, і мы не маглі адмовіцца ад іх дапамогі, бо працы ў калгасе заўсёды хапае," — сказаў Вацлаў Ждановіч. "Склалася так, што ў гаспадарцы засталіся неапрацаванымі некалькі гектараў кармавых і сталовых буракоў. Таму з адміністрацыяй фабрыкі была дасягнута дамоўленасць аб узаемаразліках: камвольшчыцы аполюць нам буракі, а мы ім за гэта запішам 170 тон нарыхтаванай зялёнай масы," — паведаміў ён.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**P.S.** Калі карэспандэнты "ГС" пабывалі ў калгасе, у рэдакцыю патэлефанавала некалькі чалавек з фабрыкі. Яны сцвярджалі, што канфлікт вырашылі і пыталіся: ці ёсць неабходнасць пра яго пісаць? Можна было б і не пісаць, калі б не адна незразумелая рэч. Вось людзі прыехалі ў калгас дапамагчы. Для іх знайшлася работа — палоць буракі. Дык чаму не запісаць як яно ёсць і аплаціць за гэты від працы?

Не, нешта хімічым: пішам, што яны не палолі, а касілі траву для жывёлы. Каго дурым? Начальства, каб даць патрэбную справаздачу, а можа саміх сябе? Дарэчы, нагадаем, што, згодна прэзідэнцкага дэкрэта, за скажэнне статыстычных дадзеных можна і штраф атрымаць.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## НОВОСТИ

### В Минск приехал Василь Быков

**В Минск приехал народный писатель Беларуси Василь Быков.**

Как известно, уже второй год он по приглашению ПЕН-центра Финляндии живет и работает в этой стране.

В беседе с корреспондентом БелаПАН супруга писателя сказала, что его приезд в Беларусь вызван, в основном, личными мотивами и не связан с политической ситуацией в стране и истечением полномочий президента Лукашенко. Просто Василь Быков решил встретиться с родными и близкими людьми, коллегами и решить некоторые вопросы частного характера. В Минске писатель пробудет не более 8–10 дней, после чего вернется в Финляндию.

### Топливо нового поколения

**В Гомеле состоялась презентация нового необычного дизельного топлива "Дито".**

Изготовитель нового топлива — московская фирма «Дито», разработавшая совместно с рядом российских ученых систему специальной очистки обычного дизтоплива. Как свидетельствуют результаты исследований и испытаний, дизтопливо полностью очищается от механических примесей и воды, что значительно улучшает его физико-химические, эксплуатационные и экологические характеристики. Такой уровень очистки дизтоплива достигнут впервые в мире, а Европе он будет по силам лишь не ранее 2015 года.

**БелаПАН**

## ЗДАРЭННІ

### За бутэльку віна збіў чалавека

**Вечарам 17 ліпеня на чыгуначным пераездзе ў Альбярціне слонімец Х. збіў жыхара гэтага пасёлка Д. і адабраў бутэльку віна.**

Пацярпелы з калецтвамі змешчаны ў бальніцу, а аматар віна нядаўна вярнуўся з месца зняволення, дзе адбываў пакаранне за аналагічнае злачынства.

### Нож — апошні аргумент

**Двое слонімцаў, 28-гадовы Т. і 24-гадовы Л., піравалі ў доме па вуліцы Агінскага.**

Пасля чарговай бутэлькі ўзнікла спрэчка. Для высвятлення адносінаў сябрукі выйшлі на прыроду. У гарадскім парку Т. нечакана пырнуў знаёмага нажом у жывот, а сам уцёк. Міліцыя затрымала злачынцу.

### Два крадзяжы на Чырвонаармейскай вуліцы

**На мінулым тыдні невядомыя злодзеі абакралі дзве кватэры на Чырвонаармейскай вуліцы, што ў Слоніме.**

З кватэры пенсіянеркі С. злачынцы забралі 12 млн. беларускіх грошай і 500 даляраў, а з кватэры жыхаркі дома №20 Ф. укралі многа хатніх рэчаў. Міліцыя шукае злодзеяў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Яшчэ адзін труп

**Каля Голяў у ляску знойдзены труп трыццацігадовага жыхара вёскі Кастровічы Віктара Шульгана.**

Медэкспертыза ўстанавіла, што ён памёр ад вострай сардэчнай недастатковасці.

**Міхась АКУЛКА**

### Рукі "свярбяць"

**Нядаўна ў Дзятлаве ноччу нехта разабраў цэлае прасла плоту, які належыць грамадзянцы Л.**

Потым зламысьнік аднёс штыкетнік ад дома і спаліў у кустах.

### Нападзенне на гродзенцаў

**Жыхар К. з Гродна прыехаў у вёску Стараельня Дзятлаўскага раёна і быў пабіты невядомымі хуліганамі.**

А другому жыхару З. з абласнога цэнтра не пашанцавала ў вёсцы Вензавец. Пакуль ён гасцяваў у сваёй сястры, пакінуўшы машыну каля яе дома, невядомыя злодзеі выкралі з аўтамабіля дакументы і грошы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## НОВОСТИ

### 12 тысяч граждан Беларуси работают за рубежом

**С 1994 года и по настоящее время за рубежом были трудоустроены более 12 тысяч граждан Беларуси.**

Основными государствами трудоустройства белорусов стали Россия, Чехия, Израиль, США, Германия и Польша. За этот же период на белорусский рынок труда было привлечено свыше четырех тысяч иностранцев — в основном, граждан Польши, Украины, Молдовы и Армении.

**БелаПАН**

## І ТАКОЕ БЫВАЕ

### Не пужайце мэра голым торсам

**У той вечар, калі людзі ў гарадскім парку адзначалі 55-годдзе з дня вызвалення Слоніма ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, са Шчары на алею нечакана вылез мужчына.**

Падбадзёраны рачной вадой і агульным вяселлем, мужчына ў спецыфічным купальным касцюме з задавальненнем распачаў абтрасацца ад кропель вады, нібы гусак. У такім выглядзе плывец і прадстаў перад яснымі вачыма старшыні гарвыканкама Алега Лакцюшына, які назіраў, як гуляе народ. З'яўленне паўголага чалавека сярод святочнаапранутай публікі вельмі абурыла галаву Слоніма. Таму ён загадаў міліцыі разабрацца з плыўцом... А ўвогуле, як адзначаюць удзельнікі свята, народнае гулянне прайшло, як ніколі, спакойна, без здарэнняў. Заўсёды бы так.

### Начны прамоўца

**У сераду, 14 ліпеня, у дзве гадзіны ночы на подыуме, што знаходзіцца на правым беразе канала Агінскага, выступаў начны прамоўца.**

Невядомы падвыпіўшы мужчына гадоў пяцідзесяці рабіў "прамовы", якія летняй ноччу былі вельмі гучнымі. Ён гаварыў пра недахоп грошай, што так неабходны для сям'і, "адпраўляў" рускіх у Расію, а чачэнцаў у Чачню, выказваў іншыя набалелыя для яго праблемы. Слухачамі былі некалькі маладых людзей, якія ў гэты час знаходзіліся ў парку, а таксама разбуджаныя жыхары суседніх дамоў. Пасля выступлення, прамоўцу, відаць, стала лягчэй на душы, і ён пайшоў дамоў спаць.

### Хуліганы ў белых кашулях

**На мінулым тыдні позна вечарам у слонімскім парку здарыўся беспрэцэдэнтны выпадак.**

На алеі раптоўна з'явіліся два спартыўнага выгляду "мэны" у чорных касцюмах і белых кашулях і пачалі без разбору спакойна лупцаваць усіх, хто сядзеў на лаўках. Білі хлопцы прафесійна. Не чапалі толькі дзяўчат і людзей сталага ўзросту. Іх нахабнасць збянтэжыла людзей, таму ніхто так і не зразумеў — за што, і не спрабаваў абараняцца. Пасля кулачнага рэйду хуліганы згубіліся ў паркавай цемры.

**Міхась АКУЛКА**

## ФОТАІМГНЕННЕ




Фота Мікалая СУПРУНА

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
...........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 21 ліпеня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 6.700 экз.
Заказ № 1975



E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

Газета Слонімская
22 — 28 ліпеня 1999г., № 30 (111)

ПРОШУ СЛОВА

# ЦЕНТР — ВИЗИТНАЯ КАРТОЧКА ГОРОДА

Под центром Слонима обычно предполагают пл. Ленина и Первомайскую улицу. Едва ли найдётся ещё районный город с таким безликим, непривлекательным центром. Он представлен, в основном, подслеповатыми жилыми домами и несколькими печальной известности "хрущёбами". Ни одного приличного современного здания, никакого ансамбля постройки! Всё слеплено случайно, бездумно. Это плохое впечатление дополняется окраской отдельных домов в ядовитые зелёные, синие, мрачно-коричневые цвета. Лица, отвечающие за эту хозяйственную часть города, обладают, очевидно, дурным вкусом, либо не знают (хотя обязаны знать), что в условиях холодного и сырого белорусского климата, категорически противопоказаны такие окраски. Этим службам следовало бы поучиться у коллег из других городов.

Удивляет и безразличие к тому, что в центре Первомайской улицы стоят деревянные киоски под вывесками "Книги" и "Союзпечать", в которых продаётся всё что угодно и меньше всего то, о чём информируют вывески. Эти киоски выкрашены той же гнусной тёмно-коричневой краской. Заугольня этих киосков отлично служат общественным туалетом для посетителей рядом расположенного павильона "Теремок" и запоздалых прохожих. Отсюда и соответствующая вонь в центре города. Что касается самого "Теремка", то он тоже раскрашен не подобающе своему сказочному названию и не украшает город.

Не украшают центр и прилегающие к нему развалины бывшего дома культуры с его разрушенными стенами и огромными ямами. Всё это свидетельствует о полном равнодушии "отцов города" к тому, как выглядит город и его центр. Впечатление такое, что в городе вообще не существует службы, отвечающей за планировку, архитектуру и вид города в целом.

Безусловно, перестройка и благоустройство города стоит немалых денег, но думать об этом и заниматься этим следует. Даже в современных тяжёлых экономических условиях можно кое-что сделать с минимальными затратами. Например, перенести упомянутые киоски в другое место, перекрасив их в более приемлемый цвет. Это открыло бы стену костёла, закрываемую сейчас киосками, что, безусловно, облагородило бы вид улицы. Убрать возвышающийся явно не на месте танк и перенести его к месту захоронения советских воинов и "вечному" огню, дополнив таким образом значимость этого святого места.

И, конечно, снести скульптуру Ленина с рукой, четко указывающей на дорогу, ведущую на кладбище. Если кто-то считает, что скульптуру нельзя ликвидировать вовсе, то её можно перенести в другое место, скажем, на пляж, танцплощадку или, наконец, базар. Оставлять на прежнем месте рядом со строящимся храмом скульптуру Ленина — ярого атеиста и врага религии — недопустимое кощунство. А впредь при планировании строительства города следует помнить, что центр города — это его визитная карточка и надо, чтобы она была привлекательной, а не такой, за которую стыдно.

**Тамара ЛЕБЕЦКАЯ**

НОВОСТИ

## В Витебске Леонтьев и Киркоров будут самыми дорогими певцами

**В Витебске идёт продажа билетов на концерты международного фестиваля искусств «Славянский базар в Витебске».**

В этом году лучшие места в амфитеатре на выступления российских «звезд» Филиппа Киркорова и Валерия Леонтьева, а также на церемонии открытия и закрытия фестиваля, можно приобрести по цене до 10 млн. рублей. Сольные концерты Софии Ротару и Ларисы Долиной обойдутся их поклонникам в 2–7 млн. рублей, прочие программы с участием «звезд» — от 1 до 5 миллионов.

«Социальные цены» — от 300 000 белорусских рублей — установлены лишь на концерты конкурса молодых исполнителей, программу российского фестиваля «Казачий круг», украинскую программу и гала-концерт юных участников фестиваля.

## Единый налог

**Президент А.Лукашенко подписал декрет «О введении единого налога для производителей сельскохозяйственной продукции».**

Декрет устанавливает единый налог для белорусских производителей сельхозпродукции; его уплата заменяет уплату всей совокупности налогов, сборов и других обязательных платежей в бюджет и внебюджетные фонды. Ставка единого налога устанавливается в размере 5 процентов от валовой выручки.

Право перейти на уплату единого налога, согласно декрету, имеют производители сельхозпродукции, у которых выручка от реализации произведенной ими продукции растениеводства (кроме цветов и декоративных растений), животноводства (кроме пушного звероводства), рыбоводства и пчеловодства составляет не менее 70 процентов общей выручки за предыдущий финансовый (бюджетный) год. Вновь созданные производители сельхозпродукции имеют право перейти на уплату единого налога при условии подачи соответствующего заявления и необходимых сведений, определенных декретом.

**БелаПАН**

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# БЛАКІТНЫЯ ЗВАНОЧКІ

Змяркалася. Мікола Крукоўскі перад сном выйшаў на ганак пакурыць. З аселіцы даносіўся водар падсохлага мурогу, і ён пашкадаваў, што не склаў сена ў копкі: а раптам ноччу дождж? Але за дзень так натросся ў калгасным грузавіку, што нават не хацелася варушыцца.

За плотам, на суседнім двары, стукнула брамка, і жаночы голас ласкава паклікаў:

— Толік, Іра, ідзіце вячэраць!

І адразу ж па сцежцы затупалі дзіцячыя ножкі. Недзе з сяней данёсся вясёлы голас гаспадара. Ён сказаў нешта смешнае, бо і жонка, і дзеці аж зайшліся ад рогату.

І Мікола пазайздросціў ім. Яго хата, новая, бадай, ці не лепшая ў вёсцы, ніколі не чула дзіцячых галасоў, такога шчаслівага смеху. Зайздросціў ён суседу і таму, што жонка ў яго вабная, пухленькая, як свежая булачка. Даяркай у калгасе працуе, а прыбіраецца лепш за іншую настаўніцу. А вось гэта Мікола асуджаў. Навошта бабе тыя ўборы, калі яна замужам. Ён сваёй Кацярыне такога не дазваляе. Не патрэбна яно. Хоць і працуе Кацярына фельчарам на ФАПе, пастаянна на віду, сярод людзей, а як выйшла за яго замуж, то, лічы, ніводнай добрай рэчы не знасіла. Можа таму ў свае сорак пяць выглядае значна старэйшай. Купіла б, пэўна, і яна сабе што, але ўсе грошы ў Міколы. І свае, і жончыны пераводзяцца ў даляры, на чорны дзень.

Чаго ўсё жыццё не шкадаваў для жонкі Мікола, то гэта работы. Пастаянна трымаюць карову, цяля, курэй, свіней. І ўсё гэта ляжыць на жончыных плячах, бо яму за калгаснай працай няма калі.

— Навошта нам усё гэта?— не раз казала Кацярына. — Хоць каб дзеці былі, а так — дзеля каго стараемся?

— Дык што, можа ўсё зароблenae на вецер пусціць, на ўсякія пудры-шмудры, як суседка? Капейка чалавеку ніколі не пашкодзіць, каб ты ведала.

Ён прыйшоў у хату, калі жонка ўжо спала. Патушыўшы святло, лёг у прыемны халадок пасцелі, перад сном абдумваючы, што тэрміновае трэба будзе зрабіць заўтра.

А раніцай, ідучы на працу, ён сустрэў свайго даўняга сябра Антося Купрэйчыка, разам з якім некалі вучыліся ў школе, і які быў жанаты на вядомай ва ўсёй ваколіцы пляткарцы Зосі.

— Слухай, што я табе скажу, — зацягнуўшыся цыгарэтным дымам, таямніча прамовіў Антось. — Мая ўчора пляла, нібыта твая Кацярына закруціла раман з тым прыезджым мужыком, што купіў Канаплісіну хату. Ну, тую, што воддаль ад вёскі, лічы, на хутары. З чарнобыльскай зоны яны перасяліліся. Жонка ў яго летась памерла. Двое дзетак пакінула. Памятаеш?

— Памятаю. Дык ён жа хворы. Я неяк бачыў. Аж свеціцца ўвесь, такі худы. Яна яго лечыць.

— Можа і лечыць, я нічога супраць не маю. Але нешта часта там бывае. Не як лекарка, разумееш? Мая казала...

— А ідзі ты! І сваю з сабою вазьмі. А мая за работай свету белага не бачыць.

— Ну, як ведаеш. Я табе сказаў.

Раз гавораць, значыць, нешта ёсць. У вёсцы ад людзей не схаваешся, — цэлы дзень свідравала галаву думка. Але Мікола нічога не сказаў пра сваю трывогу.

— Калі гэта так, то я зусім нічога не разумею, — у разгубленасці думаў Мікола. — Я ж яшчэ мужчына спраўны, у хаце вялікі дастатак. Нядрэнна зарабляем, па вясковых мерках, вядома. Машыну летась купілі. Ды і не такая Кацярына кабета, каб круціць шашні.

Усё праяснілася ў адзін вечар. Мікола прыйшоў з работы позна і быў вельмі здзіўлены, што з хлява выйшла з дайніцай Кацярыніна, жончына стрыечная сястра.

— Вось дык гаспадыня! А дзе ж мая?

— На кухонным стале ляжыць запіска. З яе ўсё даведаешся, — хаваючы вочы, прамовіла сваячка.

"Усё, што гавораць у вёсцы, праўда. Я перайшла да Курчатава. Узяла толькі сваю вопратку, усё астатняе пакідаю табе. Жыві, як ведаеш. Я да цябе не вярнуся".

Літары плылі перад вачыма. Такога ад сваёй Кацярыны ён не чакаў. Сабраўся з сіламі і зазірнуў у шафу: яе адзення не было.

— Значыць, не сон гэта, — падумаў з болем і горыччу.

І на рабоце, і на вясковай вуліцы ўсе глядзелі на яго як на цяжкахворага. Вясковыя кабеты мянцілі языкамі направа і налева, асуджаючы Кацярыну, бо , па іхняму разуменню, такія мужчыны, як Мікола, на дарозе не валяюцца. "Здурнела баба", — быў іхні прысуд. Але адкрыта асуджаць Кацярыну баяліся. Фельчарка ўсё ж , ці мала што ў жыцці можа здарыцца. Да яе ў самыя цяжкія мінуты бягуць усе.

Высвятляць адносіны Мікола да былой жонкі не пайшоў. Убачыўшы яе на вясковай вуліцы, пераходзіў на другі бок. Так мінула лета, восень, зіма. А ў сакавіку вёску абляцела навіна: памёр перасяленец, пакінуў двое малых хлопчыкаў.

Мікола на пахаванне не хадзіў, хоць хадзіла амаль уся вёска. Хто паспачуваць чужому гору, а хто — паглядзець, што ж там робіць Кацярына, як паводзіць сябе ў такой далікатнай сітуацыі?

— От, пахаваць то яна яго пахавае, а потым здасць дзяцей у дзіцячы дом, а сама вернецца да Міколы, — разважалі некаторыя вясковыя кабеты.

— Калі прыме, — няпэўна казалі другія.

Мікола таксама лічыў, што былая жонка будзе прасіцца назад і цвёрда вырашыў для сябе: не прымаць.

Але міналі дні, месяцы, а яна не прасілася. І хлопчыкаў нікуды не здавала. Кожны дзень хадзіла на работу, тупала па гаспадарцы на сваім хутары.

Першага верасня хлопчыкі-блізняткі пайшлі ў школу, у першы клас. Былі хораша апранутыя, з акуратна прычэсанымі бялявымі галоўкамі, і вясковыя жанчыны, гледзячы на сіротак, змахвалі слёзы.

— Малайчына, Кацярына, добра дзетак даглядае, — казалі з павагай. — Маму ім замяніла. Значыць, не будзе хлопчыкаў здаваць і сама да Міколы не вернецца.

Зноў пакаціліся дні. Міколу разбірала цікавасць: як яны там жывуць? Злосць, што была некалі, прайшла, і ён думаў цяпер пра жонку і хлопчыкаў нават з нейкай цеплынёй:

— Можа дроў у іх няма, а зіма ж такая халодная. Трэба схадзіць паглядзець...

І ўсё ніяк не адважыцца. Толькі перад самым Новым годам, калі лютаваў мароз, ясным вечарам ён патупаў на хутар. Дзверы былі замкнёныя з сярэдзіны, і Мікола пастукаў у шыбу.

— Хто там? — пазнаў ён голас Кацярыны.

— Гэта я, Мікола. Не бойся, пусці ў хату.

Мусіць, жанчына разважала, адчыняць ці не, бо ў хаце не было ніякага руху. Потым у сенях ляснула засаўка.

Мінуўшы прасторныя сені, увайшоў у хату. Тут было цёпла і ўтульна. На стале ў глыбокай місцы дымілася вараная бульба, відаць, сям'я рыхтавалася да вячэры. Два хлопчыкі ўжо сядзелі за сталом і, калі парог пераступіў чужы дзядзька, насцярожыліся.

— Вячэрайце, вячэрайце, я перашкаджаць не буду,— лагодна сказаў Мікола і адчуў, што на сэрцы зрабілася цёпла, як апанаваў яго даўно забыты спакой.

— То сядай і ты з намі, — прапанавала Кацярына. — Зараз гуркоў прынясу. Катлеты ўжо разагрэла.

Ён хоць і вячэраў ужо, аднак адмовіць не мог, каб не падумала, што прыйшоў сюды высвятляць адносіны ці ў нечым яе папракаць.

— Можа вам што трэба? Можа дроў няма? — пацікавіўся пасля вячэры.

— Дзякую, дровы ёсць. Мука вось для свіней канчаецца. У магазіне ёсць, але няма чым прывезці. Можа ты дапаможаш, калі не цяжка.

— Мне не цяжка, а вось табе, мусіць, хапае. І як ты адважылася ўзваліць на сябе такі груз? — сказаў ён і падумаў, што вось, без высвятлення адносін не атрымліваецца.

Але Кацярына не пакрыўдзілася.

— Ім было вельмі цяжка. Бацька моцна хварэў, дзеці без догляду. Я ім была вельмі патрэбна. А табе ўжо не... Ты ўва мне ўжо даўно жанчыны не бачыў. Жыла, нібы наймічка.

Заўтра з раніцы ён прывёз ёй мукі, а вечарам прыйшоў, каб нанасіць са склепа бульбы.

У пачатку лютага вяскоўцы са здзіўленнем назіралі, як Мікола перавозіў на хутар свае пажыткі, перавёў карову.

Ён мог бы забраць да сябе жонку і хлопчыкаў, але яна папрасіла:

— Сыночкам тут будзе лепей. Яны прывыклі да гэтай хаты, тут жылі і памерлі іх родныя бацькі.

Ніхто хлопчыкаў не прасіў і не вучыў, яны самі ўжо даўно называлі Кацярыну мамай. Мікола ўпотай зайздросціў ёй. І вось на 23 лютага хлопчыкі прыйшлі са школы ўзрушаныя. Мікола якраз абедаў.

— Тата, віншуем цябе са святам, — падышлі і прагнулі яму дзве карцінкі, на якіх былі намаляваны блакітныя лясныя званочкі. Хлопчыкі засаромеліся, пачырванелі і не ведалі, што казаць далей.

— Дзякую, сынкі, — дрыготкім голасам прамовіў Мікола. Ён абняў дзяцей і моцна прытуліў іх да сябе. Па абветраных шчоках пакаціліся дзве слязінкі...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# ГОРОСКОП

**с 22 по 28 июля**

**ОВЕН.** От вас потребуют выполнения ранее данных обещаний. Появится очень много работы, с которой сразу будет очень сложно справиться. Будьте внимательны в финансовых отношениях - возможны конфликты. Берегите здоровье.

**ТЕЛЕЦ.** Возможны попытки ограничить ваши материальные интересы. Постарайтесь быть экономнее, и осторожнее высказывайте свое мнение, чтобы не обидеть собеседников. Необходима повышенная внимательность при выполнении работы.

**БЛИЗНЕЦЫ.** Близкие люди могут высказать вам свои претензии, касающиеся материальных вопросов. Постарайтесь избежать конфликтов в близком кругу. Самоуверенность может помешать вам хорошо выполнить свои обязанности.

**РАК.** Ожидаются очень непростые переговоры, касающиеся материальных ценностей. Необходимо проявлять особую внимательность при работе с информацией. Постарайтесь не быть чрезмерно самоуверенными в отношениях с близкими людьми, так как это заставит их принимать некоторые решения, не считаясь с вами.

**ЛЕВ.** Появится возможность заработать деньги, но пока-что вы можете воспринять ее, как чрезмерные требования. Возможны нерациональные материальные траты. Если вы будете настаивать на своих принципах, то рискуете не получить нужную информацию.

**ДЕВА.** Несдержанность в проявлении эмоций может привести к острым межличностным конфликтам. Нерешительность в принятии решений способна вызвать материальные потери. Будьте внимательнее в обсуждении финансовых вопросов.

**ВЕСЫ.** Постарайтесь быть внимательнее в разговорах, при работе с информацией. Вы можете получить недостоверные сведения, либо вовсе не получить их. Не исключен конфликт с партнерами по материальным вопросам.

**СКОРПИОН.** Люди, которым вы доверяете, могут повести себя совершенно непредсказуемо. Предстоят непростые взаимные объяснения, скорее всего по вопросам, связанным с материальными ценностями. Постарайтесь не участвовать в интригах.

**СТРЕЛЕЦ.** Необходима внимательность в отношениях с официальными лицами. Вероятны претензии по материальным вопросам, нарушение прежних договоренностей способно разделить интересы, которые раньше были общими. Предстоят также неприятные объяснения с друзьями.

**КОЗЕРОГ.** Ваши попытки найти взаимопонимание для того, чтобы объединить интересы, могут натолкнуться на уклончивость и нереальные обещания. Несдержанность в поведении приведет к охлаждению отношений с руководством.

**ВОДОЛЕЙ.** Несоблюдение правил поведения в отношениях приведет к конфликтам по материальным вопросам. Появятся новые связи, но пока-что они насторожат вас. Неуступчивость способна оттолкнуть от вас покровителей.

**РЫБЫ.** Ожидаются конфликты из-за несоблюдения вами каких-то обязательств. Постарайтесь внимательнее обращаться с материальными средствами и с информацией, которая их касается - возможны потери.

## Конкурс сучасных прыпевак



***
На курорт увёз сосед
Свою дочку Аллочку,
А меня везёт отец
К бабушке на дялочку.
*Ольга ЛЕБЕДЕВА*

***
Две старухи на печи
Ждут омоложения,
Одной восемьдесят лет,
Другая — без движения.

***
Как у наших у ворот
Раззевала баба рот,
Раззевала баба рот
И бросалась
на народ.
*Евгений СКРОБУТАН*

***
Обложили всех налогом —
И корову, и быка,
Говорят, ещё обложат
Колорадского жука.

***
Ой, подружка дорогая,
У нас миленький один.
Ты ревнуешь, я ревную,
Давай лучше продадим.

***
Я по речке плаваю
Со знакомой Клавою,
А причалить не могу —
С палкой муж на берегу.
*Елена ГУНДАРЬ*

***
Жыццё ў вёсцы мне знаёма,
Там бываю часцяком.
І адтуль вязу дадому
Я смятану з кумпяком.
*Лілія ПРУДНІКАВА*

***
Как-то раз водолаз
Утопающую спас,
А когда на ней женился —
Сам пошёл и утопился.

***
Я газету прочитала
И от радости реву —
Я ведь, дурочка, не знала,
Что зажиточно живу.
*Ирина ИВАНОВА*

# ФОТАКОНКУРС

**Паважаныя чытачы! Наша газета працягвае для вас фотаконкурс, які праходзіць па трох намінацыях: "Летняя прыгажуня", "Мама, тата, я — дружная сям'я", "Мы адпачываем".**

Спонсарам фотаконкурсу з'яўляецца слонімская фірма "Кодак-Люкс".






Фота Уладзіміра КРУПНІКА




Фота Дзмітрыя МАТУШКІ

***Аўтары ўсіх апублікаваных фотаздымкаў атрымаюць у ПАДАРУНАК фотаплёнку «Kodak».***

Умовы яго вельмі простыя. Вы дасылаеце ці прыносіце ў рэдакцыю (вул. Я.Купалы, 5) каляровыя фотаздымкі да адной з трох названых намінацый. Здымкі павінны быць зроблены ў аддзелах фірмы "Кодак-Люкс", якія знаходзяцца ў слонімскіх магазінах "Ваенторг", "Дружба", "Юбілейны", "1000 дробязей" і ва ўнівермагу ў Дзятлаве. Фотаздымкі павінны быць якаснымі і арыгінальнымі, лепшыя з іх будуць апублікаваны ў "Газеце Слонімскай". Абавязкова ўказвайце сваё прозвішча і імя, адрас і тэлефон.

Пасля таго, як ваша фота будзе апублікавана ў газеце, у любы зручны для вас дзень можаце атрымаць у рэдакцыі бясплатна каляровую фотаплёнку (з сабою мець пашпарт). Акрамя гэтага, восенню, калі будуць падводзіцца вынікі конкурсу, сярод пераможцаў атрымаюць каштоўныя прызы ад "Кодак-Люкс" і ад іншых слонімскіх фірм.

*Так што фатаграфуйцеся і станавіцеся ўдзельнікамі конкурсу. Поспехаў вам і ўдачы!*

***Здымайцеся і атрымлівайце прызы!***







### У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:

Сілівонік Ксенія
Касцюк Мікіта
Бык Станіслаў
Сокал Вольга
Шмыгін Андрэй
Канюшка Вячаслаў
Сіневіч Анастасія
Самайлюк Максім
Пятрашка Уладзіслаў
Жалабкоў Андрэй
Жук Сяргей



### У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:

Якута Валянціна і Хілько Сяргей
Северына Жана
і Мазоль Дзмітрый
Скварцова Алена
і Нагула Сяргей
Валюк Алена
і Камышкайла Сяргей
Мікульская Наталля
і Бялько Віктар
Побат Анжэла
і Стасько Аляксандр
Міхута Наталля
і Ільін Віталій
Васільева Іна і Венскі Уладзімір
Протас Вольга і Палякоў Дзмітрый



## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Клок** Канстанцін Лявонавіч | 1918 г.н. |
| **Яфімовіч** Вера Мікалаеўна | 1932 г.н. |
| **Клыбік** Міхаіл Пятровіч | 1959 г.н. |
| **Кісель** Вольга Антонаўна | 1912 г.н. |
| **Борыс** Станіслава Уладзіміраўна | 1950 г.н. |
| **Жукоўскі** Аляксандр Аляксеевіч | 1968 г.н. |
| **Сасько** Пётр Адамавіч | 1924 г.н. |
| **Барысік** Вольга Паўлаўна | 1914 г.н. |
| **Мех** Анісся Мартынаўна | 1918 г.н. |





С 20 июля по 10 августа в городе будут проводиться съёмки 2-х серийного художественного фильма *"Момент истины"* по роману В. Богомолова.

***Для съёмок необходимы люди,***

которые будут сниматься в фильме (молодые стройные девушки, дети от 7 до 14 лет, инвалиды, старики и пожилые мужчины).

**За справками обращаться** по тел. 4-12-85.

**Отбор будет производиться** в слонимском гарнизонном доме офицеров ежедневно.

